

Пралятеры ўсіх краін, злучайцеся

# БЮЛЯТЭНЬ САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ САВЕЦКАЙ РЭСПУБЛІКІ

Выдаецца Інфармацыйна-Выдавецкім Бюро Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнага Савету
г. Менск, Чырвонаармейская вул. № 3. — Падпісная плата на год 5 р. і на 1/2 г. 2 р. 50 к.
VII-ы ГОД ВЫДАНЬНЯ

| № 15 (116) | 19 кастрычніка 1931 г. | № 15 (116 |
|---|---|---|





## ЗЬМЕСТ.



---

## Пастанова Савету Народных Камісараў БССР.

### 74. Пра правядзеньне работ па інвэнтарызацыі маемасьці мясцовых саветаў.

У сувязі з тым, што на мясцох адсутнічаюць вычарпальныя даныя аб колькасьці і каштоўнасьці маемасьці мясцовых саветаў ўлічваючы патрэбнасьць гэтых даных для належнага кіраваньня маемасьцю і плянаваньня камунальнай і жыльлёвай гаспадаркі, СНК БССР пастанаўляе:

1. Правесьці у БССР інвэнтарызацыю маемасьці мясцовых саветаў, якая павінна заключацца:

а) ва ўчоце маемасьці; б) выяўленьні, каму яна належыць і дзе



знаходзіцца; в) апісаньні яе па асноўных прыкметах і эканамічных паказчыках; г) вызначэньні тэхнічнага становішча і ступені зносу і д) ацэнцы маемасьці.

2. Агульнае кіраваньне і нагляд за работамі інвэнтарызацыі маемасьці мясцовых саветаў ускласьці на НК Камунальнай Гаспадаркі, на які таксама ўскласьці і ўстанаўленьне арганізацыйных форм гэтага кіраваньня і нагляду.

3. Непасрэднае выкананьне работ па інвэнтарызацыі ўскладаецца на камунальныя органы гарадзкіх саветаў і раённыя выканаўчыя камітэты па належнасьці.

4. Парадак аплаты работ па інвэнтарызацыі ўстанаўляецца Народным Камісарыятам Камунальнай Гаспадаркі па ўзгадненьню з НК Фінансаў.

5. Інвэнтарызацыя маемасьці мясцовых саветаў павінна быць скончана да 1 студзеня 1933 году.

Нам. Старшыні Савету Народных Камісараў
БССР **Г. Грысевіч.**

Кіраўнік Спраў Савету Народных Камісараў
і Эканамічнага Савету БССР **С. Кандыбовіч.**

3 жніўня 1931 г.

## Інструкцыя Народнага Камісарыяту Камунальнай Гаспадаркі БССР.

Узгоднена з НКФ БССР
15 верасьня 1931 г.

### 75. Пра парадак правядзеньня работ па інвэнтарызацыі маемасьці мясцовых саветаў.

На падставе арт. 2 пастановы Савету Народных Камісараў БССР за 3 жніўня 1931 г. (пратакол № 17, п. 13) пра парадак і мэтадалёгію правядзеньня работ па інвэнтарызацыі маемасьцяў мясцовых саветаў Народны Камісарыят Камунальнай Гаспадаркі БССР выдае наступную інструкцыю ў разьвіцьцё памянёнага палажэньня.

### I. Арганізацыя і парадак правядзеньня работ.

*А. Агульныя палажэньні*

1. Работы па інвэнтарызацыі на мясцовых праводзяцц аасобным тэхнічнымі групамі, арганізуемымі пры мясцовых органах камунальнай гаспадаркі гарсаветамі і РВК, і выконваюцца на ўмовах гаспадарчага разрахунку. Гэтыя групы дзейнічаюць пад непасрэдным кіра-

ваньнем паказаных мясцовых органаў і пад наглядам і кантролем НККГ БССР.

2. Кожная тэхнічная група складаецца з аднаго інструктара і адпаведнай колькасьці рэгістратараў і іншых тэхнічных работнікаў (ня больш 10).

3. На інструктара ўскладаецца правядзеньне работ у межах раёну альбо гораду: інтсруктаваньне рэгістратараў снабжэньне іх блянкамі, матарыяламі, інструмэнтамі і праверка выкананых рэгістратарамі работ.

4. На рэгістратара ўскладаецца правядзеньне работ у межах вызначанага для яго вучастку: вымерваньне ў натуры, запаўненьне блянкаў, складаньне чарцяжоў і эксплікацыі да іх, складаньне тэхнічных актаў, ацэначныя работы і інш.

5. Хаваньне і выдача блянкаў, матарыялаў, вымяральных прыладаў і г. д., а таксама хаваньне выкананых рэгістратарамі і праверaных інструктарамі работ, вядзеньне інвэнтарных спраў, плянаў, картатэк, складаньне сьпісу іх, а таксама складаньне плянаў і каштарысаў на правядзеньне інвэнтарызацыйных работ і агульнае кіраваньне работамі ў працэсе іх выкананьня ўскладаецца на мясцовыя органы камунальнай гаспадаркі.

6. Скончаныя і правераныя работы падпісваюцца рэгістратарамі і інструктарамі.

Апроч запоўненых блянкаў і плянаў павінны здавацца таксама абрысы, чарнавыя вылічэньні і ўвесь матарыял абсьледваньня.

7. Работы па інвэнтарызацыі ў гарадох і раёнах праводзяцца ў наступнай чарговасьці:

а) складаньне агульнага сьпісу аб'ектаў інвэнтарызацыі і ўстанаўленьне інвэнтарнай нумарацыі;

б) вывучэньне матарыялаў мінулых абсьледваньняў;

в) утварэньне спробных работ для вызначэньня норм выпрацоўкі і выяўленьня колькасьці работнікаў, якія патрэбны для абсьледваньня ва ўсім іх аб'ёме ва ўстанаўленыя тэрміны;

г) галоўныя выдаткі па складаньні і правядзеньні каштарысу на ўтварэньне работ складаюць: утрыманьне пэрсаналу для абсьледваньняў, набыцьцё інвэнтарных картак, вымяральных, чарцёжных і канцылярскіх прыладаў і матарыялаў, запаўненьне інвэнтарных картак і складаньне ўсіх сводак даных па інвэнтарызацыі:

д) разьбіўка абследуемай тэрыторыі на перапісныя раёны, а раёнаў—на перапісныя вучасткі;

е) падбор, падрыхтоўка і апрабаваньне інструктараў і рэгістратараў;

ж) абсьледваньне, вымяраньне ў натуры, запаўненьне форм, складаньне схэматычных чарцяжоў і тлумачэньняў да іх, ацэначныя работы;

з) праверка інструктарамі работ, зробленых рэгістратарамі;

і) прыёмка выкананых работ і занясеньне іх у сьпіс інвэнтарных спраў.

*Д. Інвэнтарныя справы.*

8. Увесь інвэнтарызацыйны і рэгістрацыйна-зямельны матарыял па данаму гораду і раёну па належнасьці канцэнтруецца ў адзіным інвэтарным архіве.

9. Матарыялы па інвэнтарызацыі будынкаў, прадпрыемстваў і рэгістрацыі зямель па кожнаму ўладаньню канцэнтруюцца ў аднэй інвэнтарнай справе.

10. Інвэнтарныя справы групуюцца па кварталах гарадоў, альбо паселішч і ўключаюцца ў папкі, на карашках якіх паказваюцца нумар кварталу паводле пляну, першы і апошні інвэнтарныя нумары вучасткаў (уладаньняў), якія ўваходзяць ў склад кварталу.

11. Калі ў квартале будынкі належаць да аднэй якой-небудзь катэгорыі аграмаджанага сэктару (муніцыпалізаванага, нацыяналізаванага, каперацыйнага і г. д.) і знаходзяцца пад ведамам аднаго гаспадарчага органу (камгасу, жылкаператыву і інш.), то па ўсяму кварталу заводзіцца толькі адна справа.

12. На ўсс інвэнтарныя справы павінны быць складзены копіі, якія выдаюцца для карыстаньня ў аперацыйныя часткі; арыгіналы не выдаюцца для карыстаньня.

13. У кожнай справе захоўваюцца:

а) матарыялы для інвэнтарызацыі ўсіх маемасьцяў (землі, будынкі, пабудовы і прадпрыемствы);

б) матарыялы па вучоту і ацэнцы прыватных, каперацыйных, нацыяналізаваных і муніцыпалізаваных будынкаў;

в) акты муніцыпалізацыі і дэмуніцыпалізацыі будынкаў, акты куплі-продажу будынкаў, копіі зямельных запісаў, арэндныя дагаворы на зөмлі, будынкі, гандлёва-складачныя памяшканьні і прадпрыемствы, дагаворы на права забудоўкі і інш. дакумэнты, якія характарызуюць маемасьць.

г) выканаўчыя чарцяжы і каштарысы альбо копіі каштарысаў на уноў пабудаваныя будынкі, аднавіцельныя работы, пашырэньне надбудову і перабудаву будынкаў і памяшканьняў;

д) выканаўчыя каштарысы альбо копіі іх, альбо даведкі аб кошце работ па пабудове новых тратуараў, агароджаў і інш.;

е) выканаўчыя каштарысы і чарцяжы альбо копіі іх на новыя пабудовы, а таксама пашырэньне альбо аднаўленьне іх;

ж) іншыя матарыялы, якія сьведчаць аб прававым становішчы, складзе, стане і кошце маемасьцяў і аб зьменах у іх;

з) дадатковыя згоды, якія зьмяняюць дагаворныя ўмовы, якія адзначаны ў асноўных дакумэнтах.

14. Усе частковыя зьмены ў складзе, стане і кошце маемасьці, якія адбываюцца пасьля ўтварэньня асноўнай інвэнтарызацыі, калі гэта не перашкаджае яскравасьці інвэнтарных спраў, сьпісаў, пляну і інш. дакумэнтаў, робяцца на саміх дакумэнтах.

Калі-ж гэта немагчыма, ранейшыя дакумэнты дапаўняюцца новымі данымі, альбо, з прычыны вялікай колькасьці зьмен, яны перасcкладаюцца ўноў.

Калі выявіцца новая маемасьць, якая раней ня была ўнесена ў інвэнтар, то на яе складаюцца опісы, пляны і інш.; пры выбыцьці маемасьці са складу інвэнтару адпаведныя інвэнтарыя опісы і пляны вымаюцца з інвэнтарных спраў і перакладаюцца у асобныя справы на маемасьць, якія выбыла з вучоту.

У тую-жа справу кладуцца інвэнтарныя опісы, пляны і інш., якія страцілі сваё значэньне і заменены новымі.

У інвэнтарных справах усе матарыялы нумаруюцца ў парадку разьмяшчэньня і ў справе трэба весьці сьпіс гэтых матарыялаў.

*В. Рэестравыя квартальныя пляны.*

16. У інвэнтарных архівах хаваюцца таксама рэестравыя квартальныя пляны, складзеныя ў працэсе зямельнай рэгістрацыі.

17. На квартальныя пляны павінны быць зроблены копіі, якія выдаюцца ў адпаведныя каперацыйныя часткі; асноўныя экзэмпляры для карыстаньня не выдаюцца.

18. Выпраўленьні ў рэестравых квартальных плянях, якія робяцца для рэгістрацыі бягучых зьмен, наносяцца на самыя пляны, калі гэта не перашкаджае яскравасьці чытаньня плянаў.

Пры вялікай колькасьці выпраўленьняў рэестравыя квартальныя пляны замяняюцца ў адпаведных частках графічнымі рысункамі зямель, будынкаў і пабудоу, альбо зусім перакладаюцца.

*Г. Рэестравая картатэка.*

19. Усе рэестравыя запісы павінны рабіцца ў рэестравых картатэках.

20. Рэестравыя картатэкі складаюцца: а) на кожны сядзібны вучастак (форма № 1), б) на вучастак агульнага карыстаньня (форма № 2), в) на вучастак сельска-гаспадарчага прызначэньня у горадзе (форма № 3), г) на кожны будынак у горадзе (форма № 4), і д) на муніцыпалізаваны будынак у сельскай мясцовасьці (форма № 5).

21. Рэестравыя карткі групуюцца па ўладаньнях (вучастках), па-квартальна і па-раённа і разьмяшчаюцца ў картатэках у парадку нумарацыі кварталаў, а ў межах кварталаў—у парадку інвэнтарнай (рэестравай) нумарацыі ўладаньня (вучастка).

22. Па кожнаму кварталу складаецца падруханковая картка (форма № 6), якая зьмяшчаецца ў картатэцы ўсьлед за карткамі на ўладаньні і будынкі данага кварталу.

23. У рэестравыя карткі заносяцца даныя асноунай і бягучай інвэнтарызацыі і зямельнай рэгістрацыі.

Даныя асноўнай інвэнтарызацыі і зямельнай рэгістрацыі заносяцца па стану маемасьці і іх прававога становішча ў час утварэньня гэтых работ.

Даныя аб зьменах заносяцца ў карткі на працягу году па меры выяўленьня гэтых зьмен. К пачатку кожнага каляндарнага году ўсе адбыўшыяся за год зьмены павінны быць зарэгістраваны.

Рэгіструвацца павінны толькі ўпаўне закончаныя апярацыі; апярацыі, якія знаходзяцца ў працэсе правядзеньня, не рэгіструюцца; ў

графах „падставы для запісаў“ паказваюцца дакумэнты, даведкі і інш. матарыялы, на падставе якіх запісваюцца тыя ці іншыя зьвесткі.

Спасылкі на дакумэнты і даведкі робяцца парадкам кароткай назвы дакумэнтаў альбо даведак (напрыклад: арэндныя дагаворы, зямельн. запіс і інш.) і паказаньня чарговых нумараў, па якіх яны занумараваны ў справе.

24. Даныя па ацэны маемасьцяў заносяцца ў карткі толькі ў цэнах асноўнай інвэнтарызацыі. У картках на ўноў пабудаваныя будынкі кошт іх паказваецца ў цэнах асноўнай інвэнтарызацыі і цэнах году пабудовы. У тых выпадках, калі зроблена пераацэнка будынкаў па паасобных аб‘ектах, кошт іх таксама паказваецца ў цэнах асноўнай інвэнтарызацыі і цэнах апошняга году.

У картках на ўладаньне кошт будынкаў падлічваецца па цэнах асноўнай інвэнтарызацыі; у тых-жа выпадках, калі зроблена пераацэнка маемасьці па ўладаньні— і ў цэнах апошняга году.

Увага. Парадак вядзеньня картатэкі па маемасьцях камунальных прадпрыемстваў і іншых маемасьцях паказаны ў адпаведных разьдзелах.

*Д. Альфабэтная картатэка.*

25. Апроч рэестравых картатэк, вядуцца таксама і альфабэтныкартатэкі па альфабэту адрасоў уладаньняў (вучасткаў). У альфабэтнай картцы адзначаюцца адрас уладаньня (вуліца, нумар дому, нумар кварталу) і інвэнтарны (рэестравы) № уладаньня (форма № 7).

*Е. Хаваньне інвэнтарызацыйных матарыялаў.*

26. Хаваньне інвэнтарызацыйных матарыялаў павінна быць арганізована такім чынам, каб яно зябясьпечвала іх цэласьць і захаванасьць. Выдача дакумэнтаў і матарыялаў за межы органаў камунальнай гаспадаркі забараняецца, за выключэньнем выдач па патрабаваньнях органаў РСІ і судова-сьледчых.

## II. Інвэнтарызацыя зямель і будынкаў.

*А. Агульныя палажэньні.*

27. Інвэнтарызацыя зямель у гарадзкой мяжы і вучот і ацэнка прыватных будынкаў праводзяцца па ўсіх гарадох БССР; інвэнтарызацыя, вучот і ацэнка муніцыпалізаваных, нацыяналізаваных і каперацыйных будынкаў праводзіцца ва ўсіх гарадох, мястэчках, рабочых і дачных паселішчах і сельскіх мясцовасьцях БССР.

Пры інвэнтарызацыі гэтых будынкаў у мястэчках, рабочых і дачных паселішчах і сельскіх мясцовасьцях праводзіцца таксама інвэнтарызацыя зямельных (сядзібных) вучасткаў пры паказаных будынках.

28. Адзінкай вучоту пры правядзеньні інвэнтарызацыі служыць: а) зямельны вучастка і б) паасобныя будынкі на ім.

29. Зямельным вучасткам лічыцца кожны пляц зямлі ў асобных межах, які знаходзіцца ў гаспадарчай эксплёатацыі аднаго карысталь-

ніка, як: жыльлёвага каператыву, трэсту, саўгасу, калгасу, установы, аднаасобнага землякарыстальніка і інш.

30. Паасобныя пляцы, вуліцы, узьбярэжныя і інш. месцы агульнага карыстаньня лічацца кожны за асобны вучастак.

Месцы перасячэньня вуліц і праездаў адносяцца да галоўных іх напрамкаў і асобнымі вучасткамі ня лічацца.

31. Водныя прасторы: рэкі, пруды, вазёры, калі яны не знаходзяцца як частка на якім-небудзь пляцы, лічыцца кожнае, як паасобны вучастак; пры гэтым асобна паказваюцца рыбалоўныя ўжыткі.

32. За асобныя вучасткі лічацца месцы здабычы камня, крэйды, торпу, гліны, пяску і г. д. у пэўных межах. Выбарка выкапняў з аднаго вучастку рознымі асобамі, калі яны працуюць там без паасобных дагавароў, ня служыць падставай да драбленьня яго на паасобныя вучасткі. Калі-ж выкапні выдзелены з агульнага пляцу і здадзены ў пэўных граніцах па дагавору, то кожны з выдзеленых пляцоў лічыцца за асобны вучастак.

33. Пасекі, вадзяныя млыны, калі яны не ўваходзяць, як частка, у іншыя вучасткі, лічацца асобнымі вучасткамі.

34. Інвэнтарызацыя праводзіцца толькі па знадворных граніцах і не праводзіцца ўнутры на наступных вучастках, якія не знаходзяцца пад непасрэдным ведамам органаў камунальнай гаспадаркі:

а) пад чыгуначнымі лініямі (магістралі, веткі, пад‘ездныя шляхі), прыстанямі і іншымі транспартнымі пабудовамі,

б) заводамі, фабрыкамі, складамі, элеватарамі, халадзільнікамі і іншымі вытворчымі прадпрыемствамі (апроч камунальных);

в) электрычнымі і гідраўлічнымі станцыямі, падстанцыямі і электраперадачамі (апрач камунальных);

г) тэлефоннымі і тэлеграфнымі станцыямі, радыёвузламі і інш пабудовамі сувязі;

д) крэпасьцямі, казармамі, вайсковымі, складамі, лягерамі, стрэльбішчамі, палігонамі, аэрадромамі і іншымі зьвязанымі з дзяржаўнай абаронай пабудовамі;

е) пад прадпрыемствамі транспарту.

35. Інвэнтарызацыя зямель грамадзкага карыстаньня (вуліц, праездаў, сквэраў, бульвараў, пляцоў, могільнікаў і інш.) павінна быць зьвязана і аб‘яднана з інвэнтарызацыяй маемасьцяў знадворнага дабрабыту.

36. Вучот і ацэнка нацыяналізаваных будынкаў пашыраецца на ўсе будынкі, якія належаць дзяржаўным бюджэтным ўстановам, за выключэньнем тых, якія знаходзяцца на вучастках, якія ўзяты з-пад ведама органаў камунальнай гаспадркі (арт. 34 гэтай інструкцыі).

37. Будынкі рэлігійных культаў (цэрквы і інш.) інвэнтарызуюцца як муніцыпалізаваныя.

38. Пры асноўным абсьледваньні зямель і будынкаў праводзіцца:

а) устанаўленьне наяўнасьці маемасьці, яе склад, месцазнаходжаньне і належнасьць;

б) зьёмка і апісаньне зямельных вучасткаў, складаньне схэматычных чарцяжоў на паасобныя вучасткі і эксплікацыі да іх;

в) абмер і апісаньне будынкаў і знадворных пабудоў, складаньне схэматычных чарцяжоў на кожны паверх будынкаў і экспплікацыі да іх;

г) ацэнка маёмасьцяў.

39. Пры інвэнтарызацыі зямель і будынкаў землякарыстальнікі, карыстальнікі і ўласьнікі будынкаў абавязаны прадстаўляць па патрабаваньню камунальных органаў маючыяся ў іх дакумэнты на права карыстаньня зямлёй і будынкамі.

40. Узьнікаючыя пры інвэнтарызацыі зямель і будынкаў спрэчкі аб граніцах альбо аб праве карыстаньня, калі гэтыя спрэчкі немагчыма вырашыць на месцы, не прыпыняюць інвэнтарызацыі.

Спрэчны вучастак наносіцца на чарцёж па фактычных граніцах з паказаньнем спрэчных ліній, а да інвэнтарных дакумэнтаў дадаецца асобная запіска, у якой паказваецца сутнасьць спрэчкі.

*Б. Апісаньне домаўладаньня і зьёмка зямельных вучасткаў*

41. У сьпісах домаўладаньняў і зямельных вучасткаў паказваецца:

а) будаўнічы квартал;

б) назва вуліцы, завулку, пляцу і нумар (па вуліцы).

42. Інвэнтары нумар кожнага сядзібнага вучастку складаецца з нумару раёну, нумару кварталу і чарговага нумару вучастку ўнутры кварталу, напрыклад: інвэнтары нумар—№ 3—15—6 азначае, што вучастак знаходзіцца у 3-м раёне гораду, 15 квартале і зьяўляецца 6-м па чарзе ўнутры кварталу. Інвэнтарны нумар вучастка сельскагаспадарчага значэньня складаецца з № раёну пазасядзібных зямель гораду і чарговага нумару ўнутры раёну Інвэнтарныя нумары вучасткаў грамадзкага карыстаньня (вуліц, садоў, сквэраў, пляцоў і інш.) ўстанаўляюцца ў парадку агульнай іх нумарацыі па гораду.

43. У тых гарадох, у якіх праводзіцца геодэзычная зьёмка і складаецца агульны плян гораду, інвэнтарызацыя гарадзкіх зямель робіцца на падставе плянаў, складзеных пры агульнай зьёмцы; пры гэтым робяцца выкапіроўкі з агульных плянаў.

44. У тых гарадох, у якіх геодэзычная зьёмка не праводзіцца, інвэнтарызацыя гарадзкіх зямель праводзіцца ў парадку наступных артыкулаў гэтае інструкцыі.

45. Зьёмка сядзібных вучасткаў і вучасткаў грамадзкага карыстаньня робіцца прасьцейшымі прыёмамі, без ужываньня вугламерных інструмэнтаў. Лінейныя вымерваньні робяцца рулеткай, а пры вялікай даўжыні—стальной лентай. Зьнімацца павінен вучастак у цэлым, ужыткі унутры яго і забудаваныя часткі вучастку. Даныя зьёмкі заносяцца ў абрыс, які служыць падставай для складаньня схэматычнага чарцяжа вучасткаў (чарцёж складаецца у маштабе 1:500). На чарцяжу паказваюцца граніцы вучастку з усімі ўжыткамі, будынкамі, пабудовамі, якія на ім знаходзяцца.

У тых выпадках, калі сядзібныя вучасткі, якія ўваходзяць у склад таго ці іншага кварталу, знаходзяцца ў карыстаньні розных асоб, чарцяжы на кварталы ў цэлым не складаюцца. Калі-ж карыстаньне проходзіць цэлымі кварталамі, павінны складацца схэматычныя чарцяжы на кварталы (у маштабе 1:500).

46. Пасьля сканчэньня зьёмкі зямель грамадзкага карыстаньня і сядзібных вучасткаў павінен быць складзен схэматычны чарцёж гораду з паказаньнем і нумарацыяй усіх інвэнтарызаваных зямельных вучасткаў без нанясеньня ўнутранай сітуацыі.

47. Зьёмка зямель сельска-гаспадарчага прызначэньня, якія знаходзяцца па-за сядзібнай тэрыяторыяй, праводзіцца на падставе тэадалітных ходаў (пракладзены ў мінімальнай колькасьці), якія складаюць замкнутыя палігоны. Пры мензульных зьёмках ужываюцца гэомэтрычныя сеткі. Верцікальная зьёмка не праводзіцца.

Пункты тэадалітных ходаў, у мэтах іх захаваньня пры будучых работах, замацоўваюцца моцнымі знакамі. Зьёмка сітуацыі, ў залежнасьці ад мясцовых умоў і характару зьнімаемага контуру, робіцца тымі ці іншымі спрошчанымі спосабамі, прычым скарыстоўваюцца матарыялы ранейшых зьёмак. Пры зьёмках павінны ўжывацца дальнамеры.

48. Пасьля сканчэньня зьёмачных работ складаюцца схэматычныя чарцяжы на паасобныя вучасткі і агульны схэматычны чарцёж зямель сельска-гаспадарчага прызначэньня (у маштабе 1:500) з паказаньнем на іх граніц вучасткаў і сітуацыі. Пляны арыентуюцца па магнітнаму мэрыдыяну і не ілюмінуюцца.

*В. Правілы ацэнкі.*

49. Для вызначэньня будаўнічага кошту вымернікаў для розных тыпаў будынкаў абсьледуемыя будынкі разьбіваюцца на клясы па прызначэньню будынкаў, клясы разьбіваюцца на катэгорыі па матарыялу капітальных сьцен, катэгорыі—на разрады ў залежнасьці ад абрабленьня.

50. Будынкі разьбіваюцца на 4 клясы:

Кляса „А"—жылыя будынкі, г. зн. тыя, якія прызначаны для жыльля; з іх асобна выдзяляюцца будынкі, прызначаныя для установ.

Кляса „Б"—будынкі гандлёва-прамысловага і складзкога прызначэньня.

Кляса „В"—будынкі фабрычна-заводзкага тыпу, якія прызначаны для фабрычна-заводзкіх прадпрыемстваў.

Кляса "Г„—службовыя будынкі—канюшні, хлявы і інш.

Клясы„ Д"—будынкі асобнага назначэньня—тэатры, музэі і інш.

51. Клясы падзяляюцца на катэгорыі:

Катэгорыя 1-ая—мураваныя будынкі.

„ 2-ая—драўляныя „

„ 3-яя—мешаныя і іншыя будынкі (глінабэтонныя і інш.).

52. Па абрабленьню катэгорыі падзяляюцца на разрады:

*Разрад 1-шы: простае абрабленьне.* Прыкметы: знадворку не атынкованы і не абшыты, падлогі—простыя дасчатыя, не афарбаваная альбо проста афарбаваныя, дзьверы і вокны—проста афарбаваныя з жалезнымі прыладамі, печы утэрмаркаўскія, альбо галяндзкія простыя і рускія, у пакоях сьцены аклееены прастымі шпалерамі, альбо зусім без шпалераў, лесьвіцы драўляныя, жалезныя альбо простыя мураваныя, прыбіральні і сенцы халодныя

*Разрад 2-гі, звычайнае альбо сярэдняе абрабленьне.* Прыкметы: знадворку атынкаваныя альбо абшытыя і афарбаваныя масьлянай фарбай, падлогі дасчатыя, добра афарбаваныя, альбо просты паркет сасновы ці дубовы, унутры сьцены і столі атынкованы і сьцены аклеены шпалерамі сярэдняй якасьці; печы галяндзкія, пакрытыя добраю кахляю, апал цэнтральны, кухні з плітамі, дзьверы філёнчатыя, зімнія рамы створчатыя, лесьвіцы драўляныя альбо мураваныя, клазэты паліўныя альбо з вадправодам.

*Разрад 3-ці, добрае абрабленьне.* Прыкметы: знадворку атынкованыя з лепшым абрабленьнем, альбо часткова абліцованыя мураваныя будынкі, унутры сьцены, столі і пераборкі атынкованы, сьцены і пераборкі аклеены добрымі шпалерамі, падлогі паркетныя дубовыя, дзьверы і вокны дубовыя альбо сасновыя, добра афарбаваныя, з добрымі меднымі прыладамі, у вокнах шыбы бемскія, лесьвіцы мураваныя альбо драўляныя добрага абрабленьня, апал як у разрадзе 2-м, клазэты і ванныя наліўныя альбо з вадаправодам.

У паказаную характарыстыку могуць уносіцца зьмены ў залежнасьці ад мясцовых умоў.

53. Гандлёва-складзкія будынкі розных катэгорый разьмяркоўваюцца на наступныя разрады:

Разрад 1-шы. а) Лабазы і склады халодныя без падлогі;

б) таксама з дасчатымі падлогамі і драўлянымі лесьвіцамі і міжпаверхавымі драўлянымі перакрыцьцямі;

в) таксама з мураванымі і каменнымі скляпеньнямі і лесьвіцамі.

Разрад 2-гі. Крамы і магазыны простыя, цёплыя з падлогамі і паміжпаверхавымі драўлянымі перакрыцьцямі, з вокнамі і дзьвярмі, афарбованымі масьлянай фарбай, сьцены атынкаваныя, печы галяндзкія і ўтэрмаркаўскія.

Разрад 3-ці. Магазыны з вітрынамі, вокны вялікія з дубовым альбо сасновымі рамамі, падлогі і столі добрай канструкцыі з жалезнымі балкамі, сьцены атынкованыя добрага абрабленьня, лесьвіцы мэталёвыя альбо каменныя, печы кахляныя, апал цэнтральны.

Разрад 4-ты. Таксама агнэтрывалай сыстэмы з жалеза-бэтоннымі канструкцыямі і незгараемымі часьцямі.

54. Службовыя будынкі падзяляюцца на два разрады: капітальныя і палегчанага тыпу.

55. Па кожнай клясе будынкаў устанаўляюцца па гарадох і асобна па сельскіх мясцовасьцях тыпавыя будынкі для кожнай катэгорыі і разраду; кошт іх пабудовы ўстанаўляецца складаньнем тэхнічнага каштарысу. Будаўнічы кошт аднаго кубамэтру для кожнага тыпу будынкаў выводзіцца дзяленьнем агульнага кошту будынку, вызначанага вышэй, паказаным спосабам на яго знадворны аб'ём.

Будынкі павінны быць тыповымі па роду будаўнічага матарыялу, канструкцыі і абрабленьню, аб'ёму, плошчы асновы, агульнай карыснай плошчы, у тым ліку жылой, колькасьці кватэр (і іншых памяшканьняў) і пакояў (частак памяшканьняў) і ўадносінеда тэхнічнага апісаньня асноўных элемэнтаў будынку, фундамэнту, сьцен, даху, пе-

ракрыцьцяў, апалу, лесьвіц, дзьвярэй, вакон, пераборак, спэцыяльнага абсталяваньня і іншых прыкмет.

Калі на падставе апісаных даных выявіцца, што рад будынкаў не падыходзіць пад тыя ці іншыя тыповыя будынкі з прычыны значных адхіленьняў ад іх, то ранейшая колькасьць адабраных тыповых будынкаў павінна быць папоўнена.

56. Кошт кожнага ацэньваемага будынку ўстанаўляецца з будаўнічага кошту, кубамэтру тыповага аднапаверхавага будынку аднэй з ім катэгорыі, пры гэтым уводзяцца папраўчныя каэфіцыэнты ў залежнасьці ад наступных фактараў:

а) колькасьці паверхаў будынкаў,

б) наяўнасьці цэнтральнага апалу,

в) наяўнасьці вадаправоду і каналізацыі,

г) цэннасьці абрабленьня.

Пажадана: а) выводзіць папраўкі на адхіленьні ад сярэдняга тыпу будынкаў у залежнасьці ад плошчы асновы альбо знадворнага аб'ёму ацэньваемых будынкаў і б) выводзіць самастойныя вымернікі для кожнага віду будынку ў залежнасьці ад абрабленьня.

57. Будаўнічы кошт мэзанінаў, вышкавых памяшканьняў і прыбудовак устанаўляецца асобна па іх кубатуры і кошту вымерніку гэтага роду памяшканьняў.

58. Па тых будынках, па якіх праводзіцца індывідуальная ацэнка (арт. 50 гэтай інструкцыі), павінны быць распрацаваны асобныя расцэнкі на паасобныя элемэнты альбо часткі будынкаў. Гэтыя расцэнкі да іх ужываньня на практыцы павінны быць праверany ў выбарачным парадку на радзе аб'ектаў.

59. Папраўчныя каэфіцыэнты на будаўнічы кошт аднаго кубамэтру могуць быць прыняты наступныя:

а) для жылых каменных будынкаў, атынкаваных, сярэдняга абрабленьня кошт аднаго кубамэтру аднапаверхавага будынку зьмяншаецца пры пераходзе да двухпаверхавога на 3—4 проц., трохпаверхавага—9—10 проц., чатырахпаверховага—11—12 проц., звыш чатырохпаверхавага—можна прыняць тую-ж расцэнку, як і для аднапаверхавага будынку.

Для жылых драўляных будынкаў сярэдняга абрабленьня будаўнічы кошт аднапаверховога будынку зьмяншаецца пры пераходзе да двухпаверхавага на 9—10 проц.;

б) сабекошт пабудовы цэнтральнага апалу да агульнага кошту будынку складае: для мураваных будынкаў аднапаверхавых—8—15 проц., для шматпаверхавых—7—12 проц.; для драўляных: аднапаверхавых—10 –12—проц., двухпаверхавых 8—16 проц.;

в) вадаправод і каналізацыя складае ад 5 проц. да 15 проц. у драўляных і ад 4 проц. да 10 проц. у мураваных дамох ад агульнага кошту будынку (пры пячным апале) у залежнасьці ад колькасьці паверхаў, цэннасьці канструкцыі і абрабленьня.

60. Будынкі, пабудаваныя ў 1923 годзе і пасьля яго, ацэньваюцца па выканаўчых каштарысах, пры гэтым уносяцца папраўкі ў зьвязку з зьменай цэн на будаўнічыя матарыялы, рабсілу і транспарт да часу інвэнтарызацыі.

61. Абясцэненьне будынку, якое адбылася з прычыны яго нармальнага старэньня і якое патрэбна для ўстанаўленьня сапраўднага сучаснага) кошту, вызначаецца ў проц. да будаўнічага кошту будынку па наступнай формуле: $Е=100\times\frac{А}{Д}\times\frac{А+Д}{2Д}$; у якой „Е“—абясцэненьне ў проц. да будаўнічага кошту, „А“—лік гадоў фактычнай службы і „Д“—даўгавечнасьць.

62. Пры вызначэньні абясцэненьня будынкаў трэба кіравацца сярэдня-тыповымі тэрмінамі даўгавечнасьці, устаноўленымі Народным Камісарыятам Камунальнай Гаспадаркі для будынкаў розных клясаў, катэгорый і канструкцый.

Мінулы тэрмін службы будынкаў устанаўляецца па году пабудовы, калі гэта магчыма высьвятліць, а калі немагчыма—адняцьцем ад сярэдняй тыповай даўгавечнасьці будынкаў данай клясы, катэгоры і канструкцыі таго тэрміну, які будынкі яшчэ могуць служыць.

63. Пры ненармальных умовах эксплёатацыі будынкаў для ўстанаўленьня сапраўднага кошту, вызначанага па формуле ў арт. 61, трэба ад паказанага кошту яшчэ адняць суму выдаткаў, якія патрэбны на ліквідацыю запушчанасьці будынку.

64. Ненармальнымі ўмовамі эксплёатацыі будынкаў лічацца: пажары, паводкі, апоўзьні, несваечасовы рамонт і інш. неспрыяючыя ўмовы, якія паскорылі старэньне будынкаў.

Кошт работ вылічаецца па паасобных элемэнтах альбо частках будынку (фундамэнт і капітальныя сьцены, дах, падлогі, столі, дзьверы, вокны і г. д.), выходзячы з іх аб'ёмаў і арыентовачных разьлікаў.

65. Калі вызначыць абясцэненьне будынкаў па паказаных правілах трудна (напрыклад для буйных будынкаў), абясцэненьне устанаўляецца па паасобных элемэнтах альбо частках будынкаў наступным парадкам:

а) устанаўляецца проц. зношанасьці асноўных элемэнтаў і частак будынкаў;

б) прымаецца пад увагу ўдзельная вага гэтых элемэнтаў і частак у агульным будаўнічым кошце будынку;

в) процант абясцэненьня ўсяго будынку вызначаецца як сярэдняе узьвешанае абясцэненьне элемэнтаў і частак, напрыклад:

| | Фундамэнт | Сьцены | Паміжпаверх. перакрыцьцэ | Д а х | Пераборкі | Падлога | Знадворнае абрабленьне | Унутранае абрабленьне | Вокны | Дзьверы | Апал і інш. | Вадаправоды і каналізац. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Абясцэньваньне элемэнтаў і частак будынку . . . . . | 10 | 15 | 15 | 30 | 30 | 30 | 20 | 20 | 20 | 10 | 20 | 10 |
| Удзельная вага элемэнтаў і частак да будаўнічага кошту будынку ў $^0/_0$%. | 7,5 | 19,6 | 11,8 | 9,6 | 2,3 | 9,6 | 1,0 | 6,0 | 5,7 | 3,1 | 17,7 | 3,1 |

Процант абясцэньваньня будзе: ($^1$0×7,5 +15×9, 6+15 × 11,8+30 × 9,6 + 30 × 2,3+30×9,6+20×1, 0+20×6,0+20×5,7+10×3,1+20×17, 7+10×3,1) : 100=18,6 проц.

У в а г а. Паказаныя у пунктах 61—65 спосабы вызначэньня абясцэнваньня будынкаў могуць быць скарыстаны для ўзаемнага кантролю.

66. Калі будынкі па свайму стану ня могуць несьці службы па свайму прызначэньню і аднаўленьне альбо рамонт іх нямэтазгодны, яны ацэньваюцца па кошту і якасьці астаўшыхся матарыялаў з адняцьцем кошту разборкі будынкаў і прывядзеньня матарыялаў у таварны від.

Калі паасобныя часткі зруйнаванага будынку могуць быць скарыстаны для аднаўленьня, перабудовы альбо надбудовы (напрыклад, фундамэнт, сьцены і г. д.), яны ацэньваюцца па іх будаўнічаму кошту з падлікам абясцэнваньня, якое вызначаецца ў залежнасьці ад стану будаўнічых матарыялаў.

67. Будынкі асобага прызначэньня (тэатры, музэі і г. д.) ацэньваюцца індывідуальна па павялічаных расцэнках.

68. Пабудовы ацэньваюцца па правілах, устаноўленых для будынкаў.

### *Г. Склданьне зводак па інвэнтарызацыі.*

69. Органы камунальнай гаспадаркі складаюць зводкі даных інвэнтарызацыі па 8 былых акруговых гарадох і гарадох Барысаву і Рэчыцы не пазьней 3-хмесячнага тэрміну пасьля скончэньня работ па інвэнтарызацыі і падаюць у гарсавет на зацьверджаньне. Пасьля зацьверджаньня копіі зводак безадкладна падаюцца ў Народны Камісарыят Камунальнай Гаспадаркі і ў мясцовы фінансавы орган.

Зводкі даных па інвэнтарызацыі па астатніх гарадох і сельскіх мясцовасьцях складаюцца не пазьней месячнага тэрміну пасьля сканчэньня работ і падаюцца на зацьверджаньне РВК. Пасьля зацьверджаньня копіі зводак таксама падаюцца фінансавому органу і Народнаму Камісарыяту Камунальнай Гаспадаркі. Зводкі складаюцца па формах №8 №і 9.

### III. Інвэнтарызацыя маемасьцяў знадворнага дабрабыту.

70. Інвэнтарызацыя маемасьцяў знадворнага дабрабыту праводзіцца па ўсіх гарадох і мястэчках БССР.

71. Інвэнтарызуюцца наступныя маемасьці:

а) штучныя шляхавыя пабудовы (масты, віадукі, трубы з маючыміся пры іх пабудовамі: ледарэзамі, вадаспускамі, латкамі і інш.), брукі, шосы, дамбы, узьбярэжныя замацаваньні, адхілы і г. д.;

б) пераходныя і іншыя тратуары, якія прылягаюць да домаўладаньняў;

в) пераправы, якія не ўваходзяць у склад камунальных прадпрыемстваў;

г) прадметы абсталяваньня вулічнага асьвятленьня, якія не ўваходзяць ў склад маемасьцяў камунальных прадпрыемстваў;

д) зялёныя насаджэньні па вуліцах, сквэры, бульвары, грамадзкія сады, паркі і іншыя зялёныя насаджэньні грамадзкага карыстаньня;

е) грамадзкія прыбіральні;

ж) студні грамадзкага карыстаньня і штучныя вадаёмы;

з) абсталяваньне звалак і асенізацыйных палёў;

і) абсталяваньне могільнікаў;

к) крытыя рынкі і часовыя пераносныя пабудовы на вуліцах і пляцох (павеці, кіёскі і г. д.).

л) гістарычныя помнікі;

м) мэханічныя знарады;

н) перавозачны інвэнтар;

о) розны гаспадарчы інвэнтар.

Пералічаныя ў гэтым пункце маемасьці, калі яны ўваходзяць у склад домаўладаньняў і камунальных прадпрыемстваў, інвэнтарызуюцца на падставе гэтых-жа правіл, але ўключаюцца ў склад адпаведных домаўладаньняў і прадпрыемстваў.

72. Перад інвэнтарызацыяй шляхавых пабудоў трэба зрабіць рэгістрацыю вуліц, праездаў, пляцоў грамадзкага карыстаньня, узьбярэжных і шляхоў у межах чарты гораду альбо мястэчка.

73. Рэгістрацыя заключаецца:

а) у складаньні сьпісаў вуліц, праездаў, узьбярэжных і шляхоў з паказаньнем іх назвы, даўжыні, шырыні і агульнай плошчы (форма № 10);

б) у нанясеньні на плян гораду неадзначаных на ім вуліц, праездаў, пляцоў, узьбярэжных і шляхоў, а калі пляну няма—ў складаньні адпаведных схэматычных чарцяжоў і сеткі.

Месца разьмяшчэньня пабудоў адзначаецца на пляне ўмоўнымі знакамі.

У тых выпадках, калі у даным горадзе праводзіцца зьёмка, даныя для паказнай рэгістрацыі бяруцца з матарыялаў зьёмкі.

74. Вучот шляхавых набудоў робіцца ў парадку іх паступовага

разьмяшчэньня па вуліцах, праездах, шляхох і пляцох з складаньнем апісаньняў па ўстаноўленых формах (фор. №№ 11, 12, 13 і 14).

75. Будаўнічы кошт мастоў і труб вызначаецца памнажэньнем кошту 1 кв. мэтру плошчы гарызантальнай праекцыі гэтых пабудоў на ўсю іх плошчу. Кошт гэты ўстанаўляецца асобна для кожнага тыпу гэтых пабудоў у залежнасьці ад іх матарыялу і канструкцыі. Для гэтага на кожную тыповую пабудову складаецца тэхнічны каштарыс і кошт вымерніку (1 кв. мэтр плошчы) устанаўляецца дзяленьнем агульнага будаўнічага кошту адпаведнай тыповай пабудовы на плошчу яе гарызантальнай праекцыі.

76. Процант абясцэненьня пабудовы (маста альбо трубы) пры нармальных умовах, які патрэбны для ўстанаўленьня яе сапраўднага кошту, вызначаецца па формуле, паказанай у п. 61 гэтай інструкцыі, а пры ненармальных умовах—па п. п. 63 і 64. Тэрміны даўгавечнасьці устанаўляюцца ў парадку п. 62 гэтай інструкцыі. Кошт пабудоў, якія ня могуць несьці далейшую службу, устанаўляецца па п. 66 гэтай інструкцыі.

77. Будаўнічы кошт шасы ўстанаўляецца выходзячы з агульнай яе плошчы і кошту 1 кв. мэт. гэтага тыпу шасы па мясцовых умовах у момант інвэнтарызацыі.

Сапраўдны кошт у момант інвэнтарызацыі ўстанўляецца зьмяншэньнем сумы яе будаўнічага кошту на кошт капітальнага рамонту, які быў-бы патрэбен для прывядзеньня шасы ў той від, які яна мела ў момант пабудовы. Калі-ж шаса няпрыгодна для службы, яе сапраўдны кошт устанаўляецца па наступнай формуле: $Е = \frac{А}{Д} \times \frac{А + Д}{2Д}$ уякой Е—абясцэненьне ў руб., Н—кошт поўнага перабрукаваньня у момант ацэнкі, А—лік гадоў фактычнай службы ад моманту пабудовы альбо апошняга перабрукаваньня і Д—час ад пабудовы да перабрукаваньня альбо час паміж двума перабрукаваньнямі.

Абясцэненьне бруку ад зраўйнаваньняў, якія адбыліся з асобных прычын (паводкі, апоўзьні і інш.), вылічваецца па кошту работ, якія неабходны для аднаўленьня бруку і для прывядзеньня яго ў той від, які ён меў-бы пры нармальным зносе.

79. Дамбы ацэньваюцца па іх паасобных вучастках у залежнасьці ад тыпу іх папярэчнага профілю, роду ўмацаваньня палатна, адхілаў і інш. За вымернік для вызначэньня будаўнічага кошту прымаецца 1 пагонны мэтр дамбы. Будаўнічы кошт вымерніку вылічваецца з сумы кошту работ па пабудове зямлянога цела дамбы, умацаваньня зямлянога палатна і адхілу на 1 паг. мэтр.

Сапраўдны альбо фактычны кошт кожнага з вучасткаў вылічваецца зьмяншэньнем яго будаўнічага кошту на суму, якая патрэбна для прывядзеньня дамбы ў той від, які яна мела пры яе пабудове.

Будаўнічы і фактычны кошт у момант ацэнкі ўстанаўляецца сумай кошту паасобных яе вучасткаў.

80. Ацэнка пераходных і іншых тратуараў робіцца па правілах' якія ўстаноўлены для брукаў (п. 78 гэтай інструкцыі).

81. Ацэнка рознага абсталяваньня, вулічнага асьвятленьня і інвэнтару робіцца па наступных правілах:

а) першапачатковы кошт рознага абсталяваньня інвэнтару, якое мае характар прамысловых вырабаў, як: машыны, тэхнічнае абсталяваньне, струмэнты і г. д., устанаўліваецца па кошту новай маемасьці па сучасных цэнах, пры гэтым першапачатковы кошт дапаможных прыладаў і прыстасаваньняў (рэмні, фундамэнт, мантажныя краны і г. д.) паказваюцца па кожнай машыне паасобку;

б) цэны на прадметы абсталяваньня і інвэнтару устанаўліваюцца па існуючых прайскурантах тых прадпрыемстваў, марку якіх яны носяць, альбо іншых прадпрыемстваў, якія вырабляюць гэтакае абсталяваньне і інвэнтар; маемасьці, якія ня маюць маркі прадпрыемства, у каторых яны куплены, ацэньваюцца на падставе прапаноў альбо прайскурантаў цэнтральных альбо мясцовых дзяржаўных фірм;

в) пры ацэнцы абсталяваньня і інвэнтару трэба ўключыць у іх кошт сапраўдныя выдаткі па перавозцы і ўстаноўцы, пры гэтым кожны з гэтых коштаў паказваецца паасобку ад кошту ацэньваемых прадметаў. Кошт перавозкі вызначаецца на падставе дакумэнтаў, якія пацьвярджаюць гэту перавозку, а кошт устаноўкі—на падставе маючыхся альбо складаемых тэхнічных каштарысаў;

г) першапачатковы кошт жывога інвэнтару і гаспадарчага інвэнтару (мэбля, калёсы, запражкі і інш.) устанаўляецца на падставе існуючых у час інвэнтарызацыі цэнтральных альбо мясцовых дзяржаўных і каперацыйных цэн;

д) абсталяваньне гэта, калі яно знаходзіцца пад веданьнем іншых установ (не камунальных) альбо камунальных прадпрыемстваў, уключаецца у склад маемасьці гэтых устаноў і прадпрыемстваў; інвэнтарны сьпіс робіцца па форме № 15.

82. Інвэнтарныя сьпісы грамадзкіх садоў, сквэраў, бульвараў, паркаў, могільнікаў і вулічных зялёных насаджэньняў праводзяцца па форме №№ 16 і 17. Кошт зялёных насаджэньняў у парках, сквэрах, фруктовых садох і садох грамадзкага карыстаньня, устанаўляецца па кошту вырошчваньня паасобных пладовых, дэкарацыйных і іншых дрэў у мясцовых пітомніках і выдаткаў па іх перавозцы і пасадцы, пры гэтым трэба складаць расцэначныя нормы ў залежнасьці ад узросту расьлін. Помнікі на могільніках ня ўлічваюцца і не ацэньваюцца

83. Інвэнтарызацыя студняў, грамадзкіх прыбіральняў, вартаўніцкіх будак, кіёскаў, ларкоў і інш. робіцца па форме № 18; ацэнка іх робіцца па правілах ацэнкі будынкаў.

84. Мэханічнае абсталяваньне, гаспадарчы і перавозачны інвэнтар і інш. абсталяваньне ацэньваецца па арт. 81 гэтай інструкцыі.

85. Інвэнтарныя справы вядуцца па групах маемасьцяў, пералічаных у п. 71 гэтай інструкцыі, рэгістрацыя маемасьцяў і бягучых зьмен праводзіцца па картках формы № 19.

## IV. Інвэнтарызацыя маемасьцяў камунальных прадпрыемстваў.

86. Вучоту і ацэнцы падлягае ўся маемасьць прадпрыемстваў, якая па свайму характару адносіцца да асноўнага капіталу і якая ў момант інвэнтарызацыі знаходзіцца на прадпрыемстве, як:

*А) Будынкі*:

а) будынкі вытворчага значэньня (фабрычна-завдозкія будынкі майстэрні і г. д.);

б) будынкі, якія абслугоўваюць прадпрыемства (канторы, склады і г. д.);

в) жылыя і іншыя будынкі, якія абслугоўваюць патрэбы рабочых і служачых прадпрыемства (казармы для рабочых, школы, больніцы, лазьні і інш.).

*Б) Пабудовы*:

Ваданапорныя башні, трубаправоды, каналізацыі і інш., фільтры, адстойнікі, рэйкавыя шляхі, паветраная і кабельная праводка і г. д.

*В) Сілавыя ўстаноўкі*:

Паравыя ўстаноўкі, вадзяныя рухавікі, рухавікі ўнутранага згараньня, электраўстаноўкі.

*Г) Тэхнічнае абсталяваньне і машыны*:

Трансмісіі, машыны, станкі, помпы і інш.

*Д) Мэханічны рухавы склад*:

Трамвайныя вагоны, аўтобусы, таксаматоры і інш.

Е) Струмэнты вымяральныя і рабочыя.

Ж) Гужавы транспарт (жывы і мёртвы інвэнтар).

З) Іншы інвэнтар, які не ўваходзіць у пералічаныя групы.

І) Супрацьпажарнае абсталяваньне.

К) Землі, нетры, воды і лясы, якія належаць да прадпрыемства, апісваюцца паасобку і не ацэньваюцца.

87. Не інвэнтарызуецца маемасьць, якая знаходзіцца ў складзе і якая не ўваходзіць у сыстэму вытвару данага прадпрыемства, дробныя малакаштоўныя прадметы і іншая маемасьць, тэрмін службы якой менш аднаго году.

Запасныя часьці да сілавых установак, машын і абсталяваньня, якія неабходны для правільнай і безастановачнай работы прадпрыемства ў цэлым і паасобных яго частак, павінны інвэнтарызавацца, хаця-б яны і хаваліся ў складзе.

88. Уся інвэнтарызуемая маемасьць заносіцца ў інвэнтарныя сьпісы па паасобных будынках, карпусох, вучастках, аддзяленьнях і г. д., пры гэтым самыя сьпісы складаюцца паасобна для кожнага аддзелу, службы, вытворчасьці.

Маемасьць паасобных служб, якая знаходзіцца у будынках і памяшканьнях іншых служб, заносіцца ў сьпіс па належнасьці яе да адпаведнай службы.

89. Інвэнтарны сьпіс складаецца па форме № 20, прычым нумарацыя ўстанаўляецца па розных групах, адзначаецца асобнай літарай, напрыклад: паасобныя будынкі адзначаюцца А—1, А—2 і г. д., пабудовы Б—1, Б—2 і г. д.

90. Тэхнічная маемасьць падзяляецца на 2 групы:

а) Сілавыя ўстаноўкі, г. зн. машыны, якія непасрэдна не прымаюць удзелу ў працэсе вытвару, а служаць толькі для прывядзеньня гэтага вытвару у рух, як: рухавікі ветраныя, вадзяныя, паравыя, электрычныя і інш.

б) Тэхнічнае абсталяваньне, г. зн· тое, якое прымае ўдзел у вытвары машын, як: станкі, вальцы, прэсы і інш.

91. Апісаньне маемасьці робіцца па пабудовах: а)назва і назначэньне пабудоў, матарыял сьцен, разьмеры, год пабудовы, год пачатку эксплёатацыі, тэхнічнае становішча, працант зношанасьці, адзнакі аб умовах эксплёатацыі ў мінулым і б) па абсталяваньню: назва і назначэньне прадметаў, сыстэмы, тып, фабрычны нумар, матарыял, тыповыя разьмеры альбо вага, год пачатку эксплёатацыі, тэхнічнае становішча, працант зношанасьці, адзнакі аб умовах эксплёатацыі ў мінулым.

Будынкі апісваюцца па правілах, паказаных у п. п. 41 і 42 гэтае інструкцыі і па формах, якія дадаюцца да гэтых пунктаў (№ № 1—5)

Даныя апісаньня будынкаў, паказаныя ў памянёных формах картак, пераносяцца у картку № 20.

92. Апісаньне машын і абсталяваньня праводзіцца з усім неабходным камплектам маючыхся пры іх дапаможных прыладаў і прыстасаваньняў (рэмні, фундамэнты для ўстаноўкі, краны і інш.).

93. Прыкладны пералік даных для розных машын і абсталяваньняў:

### 1) Для паравых катлоў:

Фірма, сыстэма, фабрычны нумар, вадатрубы, батарэйны з аднэй жаравой трубой, з 2 жаравымі трубамі, паверхня нагрэву ў квадратных мэтрах, дауленьне пару ў атмасфэрах, час апошняй спробы катла тэхнічным наглядам.

### 2) Для паравых машын:

Фірма, сыстэма, фабрычны нумар, гарызантальная, верцікальная, аднацыліндравая, 2-хцыліндравая, лік конскіх сіл, лік зваротаў, дыямэтр цыліндраў (пры 2-хцыліндравых машынах трэба паказаць дыямэтр абодвых цыліндраў), ход поршню, кандэнсатр дауленьне пару і інш.

### 3) Для лёкамабіляў:

Тое-ж, што і для паравых машын.

### 4) Для цеплавых рухавікоў:

Фірма, сыстэма, фабрычны нумар, газавы, бэнзінавы альбо нафтавы, лік сіл, гарызантальны альбо верцікальны і інш.

### 5) Для газа-гэнэратараў:

Фірма, сыстэма, фабрычны нумар, лік конскіх сіл, лік печа

6) Для турбін:

Фірма, сыстэма, фабрычны нумар (жанвіль, фрэнсіс і інш.), лік сіл, вышыня паданьня вады і інш.

7) Для вадзяных калёс:

Драўлянае альбо мэталёвае, верхненаліўное, сярэднябойнае, падліўное, шырыня обаду, дыямэтр каляса, вышыня паданьня вады і інш.

8) Для паравых помп, альбо правадных:

Фірма, сыстэма, фабрычны нумар, дыямэтр цыліндраў паравога і вадзянога, ход поршня, вытворчасьць у час (у літрах) і інш.

9) Для інжэктараў:

Фірма, сыстэма, фабрычны нумар, вытворчасьць у літрах у гадзіну і інш.

10) Для дынама-машын:

Фірма, сыстэма, фабрычны нумар, магутнасьць у кілёватах, ампэрах, вольтах, лік зваротаў у хвіліну і інш.

11) Для электраматораў:

Фірма сыстэма, фабрычны нумар, магутнасьць у конскіх сілах, лік зваротаў у хвіліну, ампэр і вольт.

12) Для бакаў і рэзэрвуараў:

Назначэньне, драўляны альбо жалезны, круглы альбо простакутны, адкрыты, альбо закрыты, ёмістасьць у літрах і інш.

13) Для трансмісій:

Дыямэтры і даўжыня валоў, лік падшыпнікаў, іх дыямэтр.

14) Для пара- і вадаправоду:

Матарыял труб (чыгун, жалеза), дыямэтр і даўжыня трубаправоду, асобна кожнага дыямэтру і інш.

15) Для рэмняў:

Матарыял, шырыня даўжыня таўшчыня і інш.

16) Для такарных станкоў:

Фірма, сыстэма, фабрычны нумар, вышыня цэнтраў над сталом, адлегласьць паміж цэнтрамі, вага станка ў кгр. і інш.

17) Для сьвідравальных станкоў:

Фірма, сыстэма, фабрычны нумар, ручны альбо прыводны, дыямэтр сьвярла і інш.

94. Пры інвэнтарызацыі гарадзкой сеткі прадпрыемстваў: вадаправодных і каналізацыйных трубаправодаў, трамвайнай і электрыч-

най сеткі, апісаньне робіцца з натуры па паасобных вучастках, вуліцах, праездах і г. д., кіруючыся пры гэтым існуючым плянам тэтай сэткі, калі ён ёсьць; калі-ж яго няма, то яго трэба складсьці як асноўны дакумэнт. Апроч таго павінны быць скарыстаны ўсе маючыяся каштарысы, справаздачы, рабочыя чарцяжы і іншыя матарыялы, якія маюць дачыненьне да паказаных пабудоў.

95. Апісаньне паказаных у арт. 94 пабудоў робіцца па формах №№ 21, 22, 23, 24. Пасьля сканчэньня вучоту і апісаньня па гэтых формах усе аднародныя віды маемасьці групуюцца па асноўных прыкмэтах (па матарыялу, па дыямэтру сячэньня, тыпу і г. д.) і паказваюцца ў картцы формы № 25.

96. Пры апісаньні маемасьці пры кожным аб'екце адзначаецца: 1) працуе, 2) знаходзіцца ў рэзерве, 3) не скарыстоўваецца ў вытворчасьці, 4) умоўна нягоднае.

97. Ацэнка тэхнічнай і іншай маемасьці камунальных прадпрыемстваў праводзіцца мэтадамі, паказанымі ў арт. 81, п. п. „а", „б", „в" і „г" гэтай інструкцыі.

98. Пасьля складаньня сьпісаў і ацэнкі ўсе матарыялы па інвэнтарызацыі перадаюцца ў бухгальтэрыю камгасу, трэсту, калі прадпрыемствы аб'яднаны ў трэст, альбо прадпрыемству, калі яны пераведзены на гаспадарчы разрахунак—для ўтварэньня і вядзеньня картатэкі.

99. Інвэнтарныя карткі вядуцца асобна па кожнаму прадпрыемству і па кожнаму віду маемасьці, а менавіта: 1) будынках, 2) пабудовах, 3) сілавых установках, 4) тэхнічнаму абсталяваньню і машынах, 5) мэханічнаму рухавому складу, 6) інструмэнтах, 7) гужавому транспарту (жывы і мёртвы інвэнтар), 8) супроцьпажарнаму абсталяваньню, 9) іншаму інвэнтару.

Па кожнаму віду маемасьці даецца падрабязнае апісаньне: разьмер (аб'ём, даўжыня і інш.), марка, № і ўсе іншыя адзнакі, якія характарызуюць колькасьць, кошт адзінкі, і агульная сума кошту ўсіх аднародных прадметаў (арт. 91 гэтай інструкцыі); апроч таго ўпісваюцца даныя, паказаныя ў арт. 96 гэтае інструкцыі (форма № 25).

## V. Інвэнтарызацыя маемасьці пажарнай аховы.

100. Непасрэднае правядзеньне работ па інвэнтарызацыі маемасьці пажарнай аховы ўскладаецца на мясцовыя пажарныя органы, пад ведамам якіх знаходзіцца паказаная маемасьць.

101. Пажарная маемасьць інвэнтарызуецца як маемасьць пажарнай каманды ў цэлым, а не па паасобных яе частках.

102. Вучоту і ацэнцы падлягаюць:

а) будынкі, якія непасрэдна скарыстоўваюцца пад пажарныя дэпо і пажарныя сараі, пад канюшні і гаражы, склады, канторы, жыльлё для пажарных і іншыя пажарныя патрэбы, пажарныя каланчы, вучэбныя башні і іншыя;

б) пажарны абоз (аўтамабільны і конны);

в) коні;

г) пажарны інвэнтар за выключэньнем дробных малакаштоўных прадметаў.

103. Вучот і ацэнка робіцца па мэтадах, паказаных у гэтай інструкцыі для іншых маемасьцяў (форма № № 26 і 27).

104. Будынкі інвэнтарызуюцца парадкам, які паказан у гэтай інструкцыі для муніцыпалізаваных будынкаў.

Калі пажарная каманда займае толькі частку камунальнага будынку, а большая частка займаецца іншай установай альбо прадпрыемствам то маемасьць заносіцца ў маемасьць установы, прадпрыемства, альбо пажарнай каманды па распараджэньню органаў камунальнай гаспадаркі.

105. Пры вучоце і ацэнцы маемасьці пажарнай аховы па п. „б" арт. 102 гэтай інструкцыі кожны від маемасьці, а таксама і паасобныя яго групы адзначаюцца літарамі, а прадметы нумаруюцца лічбамі.

106. Інвэнтарызацыя пабудоў пажарнай сыгналізацыі (кабелі, паветраныя электрычныя праводкі і інш.) праводзіцца па паасобных вуліцах, завулках і інш., з скарыстоўваньнем існуючых плянаў сыгналізацыі. Выяўленыя ў працэсе работы недакладнасьці ў плянах выпраўляюцца.

Пасьля сканчэньня вучоту і складаньня сьпісаў маемасьці па паказаных формах апісаная маемасьць групуецца па яе асноўных прыкметах (па тыпу, разьмерах, матарыялу) і заносіцца ў карткі па формах № № 28 і 29.

107. Пасьля сканчэньня опісаў ацэнкі маемасьці ўсе матарыялы па інвэнтарызацыі перадаюцца ў бухгальтэрыю адпаведнага органу пажарнай аховы, калі гэтакая бухгальтэрыя ёсьць, а калі яе няма, то ў бухгальтэрыю камгасу для занясеньня ўсіх даных у карткі адпаведных узораў.

108. Пры вядзеньні картак маемасьць, якая ўваходзіць:

1) у групу „б" арт. 102 падзяляецца на падгрупы: аўтамабільны абоз, конны абоз;

2) у групу „г" арт. 102—на падгрупы:
- а) ручныя пажарныя лесьвіцы:
- б) ручныя пажарныя помпы і іх прыналежнасьці;
- в) пажарныя рукавы і прыналежнасьці;
- г) ламавы пажарны інструмэнт;
- д) спасацельныя прылады;
- е) прылады для дыханьня і знаходжаньня ў дыме;
- ж) ахоўныя прылады (перасьцярожныя);
- з) прылады для асьвятленьня;
- і) сыгнальныя прылады;
- к) прадметы снараджэньня пажарных;
- л) конская збруя;
- м) мэханічныя сродкі агнетушэньня;
- н) прыналежнасьці аўтаматычнага агнетушэньня;

3) у групу „д" арт. 102—на падгрупы:
- а) кабелі;
- б) паветраныя электрычныя пабудовы;

в) абсталяваньне станцый і ізвешчацелі;

4) будынкі заносяцца ў карткі на формах, якія ўстаноўлены для муніцыпалізаваных будынкаў;

109. Намэнклятура пажарнай маемасьці па паасобных групах, якая павінна інвэнтарызавацца, выдаецца Кіраўніцтвам Камунальнай Гаспадаркі.

### VI. Інвэнтарызацыя абсталяваньня нацыяналізаваных і муніцыпалізаваных памяшканьняў, канторскага, гаспадарчага і інш. інвэнтару, які знаходзіцца пад веданьнем органаў мясцовых саветаў.

110. Інвэнтарызуюцца наступныя катэгорыі маемасьці:

а) абсталяваньне памяшканьняў;

б) мэханічны транспарт;

в) жывы інвэнтар.

г) канторскі і гаспадарчы інвэнтар;

д) іншы інвэнтар;

111. Паравыя катлы пры цэнтральным апале, а таксама вадаправодныя і каналізацыйныя ўстаноўкі пры домаўладаньнях інвэнтарызуюцца у парадку правіл інвэтарызацыі будынкаў; электрычная праводка ўнутры будынкаў за выключэньнем арматур не інвэнтарызуецца.

112. Апісаньне інвэнтарызуемай маемасьці праводзіцца па форме № 3 па паасобных групах, перанясеньне прадметаў з аднае групы ў другую не дапушчаецца.

113. Опіс маемасьці складаецца асобна для кожнай гаспадарчай адзінкі, у непасрэдным карыстаньні якой знаходзіцца даная маемасьць.

114. Пры вучоце віды маемасьці і групы адзначаюцца літарамі, а паасобныя прадметы нумаруюцца лічбамі. Літарныя адзнакі і інвэнтарныя №№ з штампам альбо пячаткай установы прымацоўваюцца да кожна прадмету, а дзе немагчыма, астатнія прадметы клеймяцца асобнымі пячаткамі і пачатковымі літарамі установы.

115. Пры апісаньні паказваецца: тып альбо сыстэма, фірма, фабрычны нумар, год вырабу, год пачатку эксплёатацыі, асноўныя разьмеры альбо вага і інш. характэрныя адзнакі, таксама робяцца адзнакі аб становішчы маемасьці: годнае скарыстоўваемае, годнае нескарыстоўваемае, нягоднае, ліквіднае, лом, у разэрве, у рамонце.

116. Пры апісаньні і ацэнцы аднародных прадметаў прапануецца рабіць опіс не прадметны, а групавы і камплектны і ацэнку іх праводзіць шляхам разьбіўкі цэлай партыі на адну, дзьве, тры і г. д. групы у залежнасьці ад стану апісваемых прадметаў у момант опісу.

117. Ацэнка маемасьці робіцца агульнымі мэтадамі, паказанымі ў інструкцыі.

118. Інвэнтарызацыя кніг вядзецца па форме № 31, а зводка—па форме № 32.

### VIII. Рэгістрацыя зьмен у складзе, стане і кошце маемасьці мясцовых саветаў і гарадзкіх домаўладаньняў.

119. Бягучая рэгістрацыя зьмен ускладаецца на тыя органы, пад ведамам якіх і на вучоце якіх маемасьць знаходзіцца.

120. Па зямельных вучастках рэгіструюцца:

а) зьмены ў назве месцазнаходжаньня вучасткаў;

б) зьмена землякарыстаньняў;

в) зьмена у асноўных прававых момантах, якія характарызуюць скарыстаньне;

г) зьмена ў граніцах і разьмерах вучастку;

д) зьмена на ўнутранай сітуацыі вучасткаў за выключэньнем зьмен і плошчы хатніх гародаў за кошт двара і наадварот;

е) вучот уноў адведзеных пад забудоўкі і перададзеных ў арэнду вучасткаў з паказаньнем знадворных граніц і ўнутранай сітуацыі вучасткаў;

ж) зьмены ў складзе каштоўных насаджэньняў.

121. Па муніцыпалізаваных, нацыяналізаваных і каперацыйных будынках рэгіструюцца;

а) зьмена карыстальнікаў жылымі і няжылымі будынкамі з вучотам асноўных момантаў, якія характарызуюць умовы карыстаньня;

б) пабудова новых, набыцьцё і муніцыпалізацыя жылых і няжылых будынкаў;

в) дэмуніцыпалізацыя, дэнацыяналізацыя, продаж, знос, зруйнаваньне і зьнішчэньне цалкам альбо часткова жылых і няжылых будынкаў ад пажару, апоўзьняў, паводак і інш. прычын;

г) аднаўленьне ненаселеных будынкаў, пашырэньне, надбудова, прыбудова і перабудова жылых і няжылых будынкаў;

д) утварэньне капітальнага рамонту для ліквідацыі запушчанасьці будынку (нармальны капітальны рамонт, які складае ад 1,6 проц. +1,9 проц. для драўляных і 0,4 проц.—0,8 проц. для мураваных будынкаў іх будаўнічага кошту), а таксама бягучы рамонт не рэгіструюцца;

е) усе зьмены ў пляне будынкаў (апроч служб), куды адносяцца, апроч паказаных у п. „г“, зьмены у колькасьці пакояў, кватэр пабудова, альбо разборка сьцен і пераборак, пашырэньне альбо зьмяншэньне жылой, гандлёва-складачнай плошчы, прабіўка альбо закладка вакonных і дзьвярных праёмаў, устаноўка альбо разборка печаў і інш.;

ж) пабудова новых тратураў, якія прылягаюць да домаўладаньняў;

е) пабудова і знос агароджаў і платоў;

і) далучэньне будынкаў да вадаправоднай, каналізацыйнай і асьвятляльнай сеткі;

к) зьмены ў кошце муніцыпалізаваных домаўладаньняў, якія утварыліся ў складзе і тэхнічным становішчы будынкаў звыш паказаных прычын і ад амартызацыі.

122. Па прыватных дамох рэгіструюцца:

а) зьмена ўласьнікаў будынкаў;

б) пабудова, пашырэньне, надбудова і знос будынкаў.

Бягучая рэгістрацыя прыватных будынкаў вядзецца толькі тады, калі папорэдне ўтворана іх абсьледваньне ў парадку зямельнай рэгістрацыі, альбо калі ўтвораецца спэцыяльны вучот і ацэнка прыват-

нага жыльлёвага фонду, калі пры гэтым падлічана карысная (жылая і абслугоўваючая) плошча, то вядзецца таксама рэгістрацыя зьмен гэтай плошчы.

123. У сельскіх мясцовасьцях інвэнтарызацыя зьмен рэгіструецца толькі па муніцыпалізаваным фондзе.

124. Па тэхнічных пабудовах знадворнага дабрабыту, камунальных прадпрыемствах і пажарнай ахове рэгіструюцца:

а) новыя пабудовы і знос старых;

б) аднаўленьне, пашырэньне, пераабсталяваньне і дабудова пабуд.;

в) капітальны рамонт, які робіцца для ліквідацыі запушчанасьці пабудоў;

г) зруйнаваньне альбо зьнішчэньне пабудоў ад пажару, апоўзьняў, паводкі і інш. прычын;

д) зьмены ў кошце пабудоў, якія адбыліся ад зьмен у складзе і тэхнічным становішчы маемасьці, а таксама ад амартызацыі.

125. Па сілавых устаноўках, тэхнічнаму абсталяваньню і машынах, мэханічных знарадах, мэханічнаму транспарту, буйнаму супроцьпажарнаму абсталяваньню і інш. маемасьці рэгіструецца:

а) набыцьцё і продаж маемасьці;

б) перадача маемасьці ў карыстаньне ўстаноў, грамадзкім арганізацыям і іншым карыстальнікам;

в) аднаўленьне, пераабсталяваньне і капітальны рамонт, якія робяцца для ліквідацыі запушчанасьці;

г) зьмены ў кошце маемасьці, якія ўтварыліся ад зьмен у складзе і тэхнічным становішчы і ад амартызацыі.

126. Па іншых відах маемасьцяў (жывы, гаспадарчы і іншы інвэнтар) рэгіструюцца зьмены ў складзе маемасьці: набыцьцё новай маемасьці, продаж маемасьці, перадача ў часовае карыстаньне, выбыцьцё з складу маемасьці з прычыны амартызацыі, зьнішчэньня і ад іншых прычын, а таксама і зьмены ў кошце з прычыны зьмены ў складзе і амартызацыі маемасьці.

127. Рэгістрацыя бягучых зьмен адкрываецца непасрэдна пасьля складаньня інвэнтарных опісаў на пасобныя аб'екты, якія праводзяцца ў парадку асноўнай інвэнтарызацыі.

Пры гэтым да моманту складаньня інвэнтарызацыі па данаму фонду павінны быць падлічаны ўсе зьмены ў маемасьцях, якія ўтварыліся за час правядзеньня інвэнтарызацыі.

128. Бягучая рэгістрацыя інвэнтарных зьмен, якія адкрываюцца ў працэсе правядзеньня асноўнай інвэнтарызацыі альбо рэгістрацыі, павінна весьціся да сканчэньня асноўных работ тымі апаратамі, якія праводзяць гэтыя работы, а пасьля сканчэньня асноўнай інвэнтарызацыі—вядуцца апаратамі органаў камунальнай гаспадаркі.

Народны Камісар Камунальнай Гаспадаркі БССР **Аксючыц.**

Інжынэр па Інвэнтарызацыі НККГ БССР **Баранаў.**

Адказны Рэдактар **С. Лодысеў.**

Друк. К[illegible] [illegible]ЭС БССР. Галоўлітбел № 294. Зак. № 637—5350.